Hod VIII. Červień 1936 h. № 6.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“
ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 6:



Braty! Ci pravodzicca ŭ Vas školnaja akcyja i ci robicie Vy ŭ hetym kirunku jakija-niebudź zachady. — Pomnicie, što rodnaja biełaruskaja škoła paviadzie nas da lepšaj budučyni. Kožny biełarus pavinien damahacca biełaruskaje škoły!...

Infarmacyi, instrukcyi, druki i farmulary na žadanie vysyłaje biaspłatna školny Sakratarjat: Wilno, Karaleŭskaja 3—8.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С. с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П. п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

// Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Чэрвень 1936 г. | № 6 (92). |
|---|---|---|

**Міхась Машара**

* * *

Вецер зьнямогся зусім,
Бродзячы ў моры калосься —
Лёг адпачыць паміж ніў;
Сьціхлі кусты вербалозьзя.

Дзень — адыйшоў... За гарой
Сонца згарэла ў пажары.
Яркія зоры над ціхай зямлёй
Сеялі сонныя чары.

Ночка прыйшла на зямлю,
Ночка прыйшла, якіх мала.
Ціхую казку сваю
Дзіўнымі дзівамі ткала.

Хмельная трэль салаўя,
Ціха няслася здалёка.
Родная вёска мая —
Вёска заснула глыбока.

Сэрца трывожна чамусь
Слухае казку начы.
Быццам ізноў Беларусь
Сьпіць ад мяжы да мяжы.

Вясна—1936.

**С. Хмара**

* * *

Чырваньню макаў закрасавалі
Хусткі — дзяўчатаў — апінкі —
Ў вачах двaіліся, учацьвераліся —
Маілі вуліцы, рынкі.
Сонца касулькамі з неба ўсьміхалася
— Хусткі ўсьміхаліся сонцу —
Чырваньню яркаю песьню пяялі
Й ракою ліліся бясконцай.
Ятрылі сэрцы. Калолі, як джала,
Панскія вочы — апінкі. —
Вёска жаночы так дзень спатыкала:
Дэманстравала на рынку.

# Шляхам да палепшаньня быту

*(З прычыны Дня Коопэрацыі).*

З усіх старон чуем нараканьні і бедаваньні. Няма хлеба, няма зямлі, няма працы, няма грошай, гінем у цемры і бядоце і г. д. Палажэньне агульнае, а краю нашага і беларускае моладзі—асабліва цяжкае. Трэба шукаць выхаду, трэба шукаць спосабаў і магчымасьцяў паправы свайго быту. Але як?

Вось-жа дамагаемся зямельнай рэформы, дамагаемся надзелу зямлёй беззямельных і малазямельных, маем вялікія і прыгожыя пляны і праграмы перабудовы жыцьця. Дамагаемся працы і школы, дамагаемся ўрэшце належных нам правоў і свабоды. Усё гэта добра і трэба гэта рабіць усім дружна і арганізавана, бо толькі тады гэтыя дамаганьні будуць заспакоены. Робячы аднак гэта, трэба нам памятаць, што мала толькі дамагацца, а трэба ў гэным кірунку ўсімі магчымымі шляхамі йсьці. Трэба свае дамаганьні чынамі падтрымліваць і пачаць канкрэтную барацьбу з найбліжэйшым ворагам.

Сяньня, жывучы нават у цяжкіх абставінах, даём мы аднак магчымасьць утрымлівацца розным спэкулянтам, пераважна чужым гандляром і перакупшчыкам, дармаедам, пасрэднікам, а часта мазольна зароблены грош пушчаем на рэчы непатрэбныя — на тытун і гарэлку. — Дык мейма-ж меру. Ня дайма ані граша на тытун і гарэлку, зьнішчма пасрэдніка-спэкулянта арганізаваньнем і падтрымліваньнем сваіх коопэратываў.

Праўда, арганізацыя коопэрацыі ў Польскай Дзяржаве апошнім часам вельмі абцяжана. З усімі аднак перашкодамі трэба рашуча змагацца і рабіць сваё, бо-ж коопэрацыя зараз-жа можа нам даць канкрэтныя і дадатнія вынікі ў нашай барацьбе з вызыскам, каторы так нам даецца ў знакі. Праўда, яшчэ гісторыя коопэрацыі на нашых землях вельмі сумная, але яна няхай нас не адстрашае ў працы, а няхай будзе толькі нам навукай, як да коопэрацыі брацца ня можна. Бо-ж тое, што раз нам праца ў гэным кірунку не ўдалася, ня сьведчыць, што ідэя коопэрацыі благая. Творачы коопэратывы, як спажывецкія, так крэдытныя і вытворчыя, аддавайма іх кіраўніцтва людзям сваім—беларусам—чэсным, умелым, а пры тым тварэма належную **сваю** над імі **кантроль**.

Памятайма так-жа, што творачы сваю беларускую коопэрацыю, творым эканамічную падставу свайго адраджэньня, даём працу сваім людзям, рэальна прыступаючы да палепшаньня свайго быту.

Дык падтрымлівайма дружна свае дамаганьні, узнаўляйма і ўзмацоўвайма іх, арганізуймася, закладайма беларускія коопэратывы, каторыя напэўна моцна памогуць нам у нашай барацьбе за сьветлыя свае ідэалы!

**Я. Н.**

# U 10-tyja ŭhodki śmierci K. Svajaka

Sonca pavoli chiliłasia ŭniz, kidajučy zołata-čyrvonyja svaje kasuli. Sosny vysokija cicha šumieli, łoviačy huki dalokija, šopat kustoŭ pryziemnych i homan duboŭ i asin. Dzieści daloka pad sinim i čystym niebam, słaviačy Ŭsiomahučaha, śpiavaŭ pieśniu viačerniuju šery žaŭranak.



Kazimier Svajak (Ks. Kastanty Stepovič).

Pamału i pavažna dzień ustupaŭ svajo miesca nočy viaśnianaj. Nivy ŭžo apuścieli, a pastuški što-raz čaściej kidali svoj zrok na zachad, čakajučy kanca svaje pracy. U mieście taksama praca užo spyniałasia. Tolki pa chodnikach ludzi chvalami płyli i płyli. Viežy i kupały jašče załacilisia, a drevy redkija ŭ drem zapuskalisia.

Tak cicha i pryhoža kančała svoj viek karotki subota 6 červienia 1936 h. Cicha i pryhoža było ŭsiudy. Cicha i pryhoža było i na mohiłkach Rossa la Vilni, dzie nad mahiłaj pieśniara Biełarusi narod z usich staron — z miesta i viosak dalokich — u vialikuju hramadu sabiraŭsia.

Ale dzie-ž mahiła paeta? Dzie-ž mahiła Svajaka słaŭnaha? O, siańnia znajści jaje nia lohka, choć ležyć jana na horcy, što Horkaj Litarataŭ zaviecca. Siańnia na miescy henym z usich staron kvietki i vianki vidniejucca. Ludziej nadchodzić što-raz bolš, a miesca mahiłki pry kvietkach aznačajuć strojnaju pastavaju biełaruskija skaŭty, stojačy na hanarovaj stražy. Naŭkoła ich sialanki, sialanie, moładź, intelihiencyja, rabotniki i miaščanie. Usie jany zyjšlisia siudy, kab pakłanicca svajmu paetu za jahonuju pracu dla Biełarusi, ušanavać jahonuju pamiać, a miesca hrobu jahonaha pamiatnikam na vieki aznačyć.

Uračystaść pačałasia. Pry kvietkach u ŭborach kaścielnych źjaviŭsia Ks. A. Stankievič, tavaryš i apiakun pradčasna zhasšaha paeta. U hetuju chvilinu chor piaje biełaruskuju relihijnuju pieśniu „O, Boža, Zbaŭca naš"... Paśla ciša... A dalej płyli ŭžo słovy pryhožyja ab Svajaku z vusnaŭ Ks. A. Stankieviča, katory taksama adkryŭ i paśviaciŭ pamiatnik. Pramaŭlaŭ tak-ža i ŭspaminami svaimi ab Svajaku dzialiŭsia i druhi jahony siabra Ks. V. Hadleŭski. Zakončana-ž była ŭračystaść ahulnymi molbami za supakoj dušy pieśniara i himnam: „Boža, što kališ narody"...

Pavoli raschodzilisia ludzi i jšli ŭ zalu BIHiK na akademiju ŭ česć Svajaka. Na Horcy Litarataŭ, na Rossach, siarod viankoŭ i kvietak nad mahiłaj, siaród dreŭ i kryžoŭ vidnieŭsia pamiatnik novy — plita prostaja, kamiennaja, z znakam liry, imiem paeta i jahonymi praročymi słavami:

„Idzie voś jasnaja para,  
Pravidu śviecić nam zara,  
Ajčyna — Maci — Biełaruś,  
Haroj, žyva!..."

Zala Instytutu zahadzia ŭžo była pryhatavana i prybrana. Na frontavaj ścianie pad herbam Pahoni, u bieła-čyrvona-biełych ściahoch i žyvych kvietkach, visieŭ partret K. Svajaka. Ludziej mnostva, tak što ŭsie nie mahli pamiaścicca.

Akademiju adčyniŭ inž. A. Klimovič, katory naŭpierad ad imia śviatkavalnaha Kamitetu 10-tych uhodkaŭ śmierci K. Svajaka padziakavaŭ usim hramadzianam, jakija składali achviary na niadaŭna adkryty pamiatnik i zaprapanavaŭ ušanavać pamiać paeta chvilinaj maŭčańnia, a ŭ hetu-ž časinu chor BIHiK prapiajaŭ žałobny marš „Rasstaŭsia z nami Ty na vieki"...

Dalej iznoŭ mieŭ hołas Ks. A. Stankievič, jaki pračytaŭ cenny i cikavy referat ab žyćci i tvorčaści K. Svajaka.

Kazimier Svajak — ci lepš Kastanty Stepovič, praŭdzivaje proźvišča katoraha takoje było, — radziŭsia ŭ v. Barani, Śviancianskaha pav. Byŭ jon synam sielanina. Zdabyŭšy pačatkavuju aśvietu, pieražyŭšy mnoha hora, vučyŭsia ŭ miestavaj škole ŭ Śviancianach, a paśla, paśviaciŭšysia duchoŭnamu stanu, u Duchoŭnaj Seminaryi ŭ Vilni, katoruju končyŭ i ŭ 1915 h. byŭ vyśviačany na ksiandza. Budučy ŭ seminaryi (1906 i 1907) paznajomiŭsia Svajak z biełaruskim rucham, hałoŭna praz „Našu Nivu" i paśla pačaŭ pisać, addajučy pieršyja svaje tvory da druku ŭ čas. „Biełarus". U henym časie Svajak pačaŭ zapadać na zdaroŭ'i i musiŭ vyjaždžać lačyć svaje chvoryja hrudzi ŭ Zakapanaje za Krakavam. Padlačyŭšysia i atry



Adkryćcie pamiatnika Kaz. Swajaku.

maŭšy stanovišča duchoŭnika na vioscy, Svajak enerhična pracuje siarod narodu dla biełaruskaj spravy, uśviedamlajučy ludziej, vučačy moładź i aśviačajučy jaje, dy zasiavajučy ŭ sercy kožnaha biełarusa luboŭ da svajho narodu i da svajej Baćkaŭščyny. Vialikaja ŭsiaśvietnaja vajna, nienarmalnyja žyćciovyja abstaviny, pieraškody ŭ biełaruskaj hramadzkaj pracy z boku polskaha duchavienstva i inš., a tak-ža sama praca niščyli kvołaje zdaroŭje paeta. Svajak što-raz čaściej prabyvaŭ ŭ Zakapanym, u mieru adnak sił pisaŭ. Urešcie-ž, čujučysia zusim asłablenym, zažadaŭ pryjechać u Vilniu i tut 6.V.1926 rasstaŭsia z hetym śvietam, pakidajučy pa sabie nie małuju i vielmi cennuju litaraturnuju spadčynu.

Hałoŭnyja tvory Svajaka heta: zbornik vieršaŭ „Мая ліра", vydany ŭ 1924 h., „Dzieja majej myśli, serca i voli" (dniaŭnik), pjesa „Janka Kancavy", „Чарку дай браце" (apaviadańnie vieršam), „Kupalle" (relihijnaja misterja, asnuta na biełaruskaj mitolohii), malitaŭnik dla biełarusaŭ katalikoŭ „Hołas Dušy", roznyja vieršy, apaviadańni i artykuły, raskinutyja pa roznych biełaruskich časopisach.

K. Svajak, jak sam kazaŭ u ŭstupie da „Majej Liry", pisaŭ „nie dla blichtru ani sławy", ani taksama „dla zabavy". Jon pisaŭ z vialikaj lubovi da Biełarusi, da svajho narodu. Praŭda, Svajak pierš za ŭsio byŭ paetam relihijnym, ale adnačasna vialikim patryjotam i myślicielém biełaruskim. Ab hetym śviedčyć usia jahonaja tvorčaść. Voźmiem voś dla prykładu chacia-b paru jahonych vieršaŭ, a navočna ab hetym prakanajemsia.

Hej ty, rodnaja staronka,
Hej, krajočak miły,
Chvalić budu ciabie zvonka
Da samaj mahiły!

Ty ciarpieńnie dušy hoiš
I źniamohu cieła,
Žyćcio tvoryš, pieśni roiš,
Vučyš žyć umieła.

Kali-ž chto ciabie nia lubić,
Kraj moj rodny, miły,
Chaj dušu svaju zahubić,
Rastraciŭšy siły. (Čar Ajčyny).

O Boža — Boža, spašli źmiłavańnie
Nad Tvaim ludam, što poŭny niadoli,
Bo ŭžo-ž jon prosić daŭno źmiortvychstańnia,
Kab vyjšci z kryŭdy, z hrechu i niavoli.

Čužyniec lud Tvoj addaŭ na pakusu,
Kab z jaho serca vyhnać Ciabie, Boža;
Chaj kroŭ biazvinnych, da hrechu prymusy
Pabudziać hnieŭ Tvoj na narod varožy.

Zbudzi, o Boža, lud Tvoj padniavolny
Na trud svabodny, na łasku spakoju,
Ŭzhlań na jahony los ciažki — mazolny.
Na chleb miašany z horkaju ślazoju.

Uzhlań, o Boža, — zoram svajej mocy
Sakruš niačystych pracu ruk pahanych,
A bahasłaŭ svoj lud biedny rabočy,
Jak maci kvołych dzietak miłavanych.

(„Maja Lira"—Ad te levavi...)

K. Svajak heta hłyboki biełaruski filozaf, ideoloh biełaruskaha adradžeńnia i prarok lepšaj budučyni, bo-ž pisaŭ jon:

Śviet čaroŭny-cudoŭny mianie ŭziaŭ ŭ abojmy
Napaiŭšy adviečnaj žurboj ideału,
Tvoraŭ dziŭnych usiudy vidžu cełу płojmy
I čuju nad saboju ŭsiebytu navału. (Duša Maja).

Dla ŭsich-ža ludcoŭ, hdzie jość ich kolki,
Adnaho treba na śviecie tolki —
Biez čaho śviet naš — błudna daroha:
Usim da ščaścia patreba Boha.    (Ščaście).

I duch narodny advažna paŭstanie:
Raŭniaci budzie daliny i hory.
Budavać budzie na złomach ajčyny
Rukoj mahutnaj z ahniom Prometeja.
A sam jak zhinie, daść testamant synu,
Kab nie zmaleła Ajčyny ideja...    (Ačyny miłaj...




**Pamiatnik K. Svajaka.**

Zdabyć treba pierš ziamielku,
Bo kraina-matka ŭsim:
Chlabok rodzić i kudzielku
Dzieciam rodnym, nia čužym.

Voś ziamielku inšym ładam
Dzialić treba čym daŭniej:
Chto nam pavukom, ci hadam,
Pojdzie proč raniej-paźniej.

Hlań kruhom, bratok moj rodny,
Padzivi naš rodny kraj:
Jon bahaty, jon prastorny —
Jamu trud ty svoj addaj!

Budzieš mieć ziamielki ŭdoval,
Škoły zrobiacca z dvaroŭ;
I aviečkaj i karovaj
Zmožyš panskich šlachtunoŭ.

Hej, budujcie-ž, maje ludcy,
Žyćcio novaje naŭkruh,
Navat sonki chaj pračnucca, —
Chto nia vorah—budzie druh! (Hej, budujcie!)

Narod byŭ asobna, tvaryŭ svaju siłu, —
Kultury nia mieŭ, a tvaryŭ...
Narod moj ty biedny, padziakuj ty Bohu,
Što možaš ciapier pakazać,
Sabranuju siłu na tuju darohu,
Dzie možna svabodu spaznać.
Chto syn tvoj—syn vioski—niachaj chutčej ŭstanie,
Pratreć svaje vočy na dzień,
Idzieć bo para — para źmiortvychstańnia —
„Pałožan tapor na kareń“.
Advažna-ž, moj bracie, ty praŭdu ad Boha
Niasi ŭ śviet šyroki na kraj,
A choć i ciarnista tvaja šlach-daroha, —
Jana zaviadzieć až u raj! (Šlacham ciarnistym).

Tłumačeńnia, komentaraŭ vieršy henyja zdajecca nie patrabujuć, bo-ž Svajak vyrazna ŭ ich kaža, jak lubym byŭ jamu rodny kraj, što było, što jość, što treba rabić i što budzie...

Hłybaka adčuvaŭ i pamastacku apisvaŭ Svajak i pryrodu Biełarusi. Hałoŭnymi adnak matyvami jaho tvorstva źjaŭlalisia asabistyja pieražyvańni i filozofična-relihijnyja dumki, u śviatle katorych vypracoŭvaŭ jon biełaruskuju ideolohiju.

Sioleta minuła ŭžo 10-ć hadoŭ ad śmierci paeta. Ale jon— Svajak — naleža da tych, što śmierciaj svajoj rodziacca da novaha žyćcia. Svajak zapraŭdy „*nie pamior, a naradziŭsia!*“, jak sam ab hetym za žyćcia praročyŭ. Tamu ŭ tvorčaści Svajakovaj tak šmat siły, z jakoj treba karystać i nam, biełaruskaj moładzi.

J. N.

## Вясна прыйшла

Вясна прыйшла — цьвітуць сады,
Сяйбіт выходзіць ўжо на поле,
Кідае зерне ў пух ральлі,
Каб сабраць жніва лепшай долі.

Вясна прыйшла — цьвітуць сады,
Жывая кроў хутчэй іграе.
Браты! Хто духам малады,
Ўставай, бо праца рук чакае!

Вясна прыйшла — цьвітуць сады;
Ўжо новых дзён зара усходзіць.
Праз векаў век цярпелі мы,
Цяпер пара сказаць ўжо: годзі.

Вясна прыйшла — цьвітуць сады;
Ў грудзёх бурляць прылівы сілы;
Я чую покліч барацьбы
За свой народ, за край свой мілы!

**Горн.**

**Андрэй Чэмер.**

# На родным палетку 4)

## IV.

З шумам і гоманам надыходзіла трыумфуючая вясна.

Тысячы ручаёў, разагрэтыя залацістымі праменьнямі сонца, сьляпілі вочы сваім мігатлівым, люстрана-жвавым бегам!

На чорных, вогкіх узгорках паказалася першая бледная траўка, над нівамі і пасёлкамі лунаў серабрысты галасок жаўранка.

Сонны бярэзьнік, прабуджаны залётнымі падмухамі вясьнянага ветру, ледзь чутна шумеў бязьлістымі галінкамі.

Рэкі грозна гаманілі мутна-жоўтымі хвалямі, заліваючы дарогі, палі і сенажаці.

Васіль чытаў апошнія навіны „Нашай Працы" і „Беларускай Крыніцы."

Ад ранаў у часе пажару ўжо мала што асталося, толькі падвязаная рука была сьведкай паважных апёкаў.

Вясьняны ветрык рассыпаў валасы Васіля, перагортваў бачыны газэты, абдуваў пахам палёў і сенажацяў.

Прагледзіўшы газэты, Васіль задумаўся аб тым, як цяжка жывецца беларускаму селяніну, як кожны цягне з яго апошнія сокі, зьдзекуецца, ашуківае...

І дзе шукаць рады? Толькі і толькі ў сваей уласнай самаабароне!

Пакуль сялянства не сарганізуецца, пакуль кожны будзе йсьці пасабе, датуль будзе бітым і ашукваным.

Не! Ня можна пакінуць справы на першай няўдалай спробе!

Трэба далей прабаваць, трэба будзіць народ!

* * *

— Вася, госьць да цябе прыйшоў! — клікнула маці.— Хто?... А. .а! Панна Алеся!... Якая-ж важная справа прывяла „паненку" да мяне?

— Не жартуйце з мяне, Васіль. Выратавалі мне жыцьцё, ды яшчэ „якая прычына"... Прыйшла падзякаваць Вам— выцягнула да яго руку.—Шчыра, з усяе душы дзякую! І паверце, ніколі не забуду, што вы рызыкавалі сваім маладым жыцьцём для зусім далёкай і мала знанай асобы! — гаварыла, моцна цісну чы яго руку.

— Пакіньце, пакіньце! — спыняў Васіль. — Нічога надзвычайнага я не зрабіў, а тое, што зрабіў для Вас, зрабіў-бы і для кожнага іншага. Вось лепш скажэце, чым магу быць карысным „пані інструктарцы?"

— Ах, пакіньце ўжо гэтыя кпіны! Ну што-ж у тым кепскага, што працую ў польскіх установах? Каб былі беларускія, то працавала-б у беларускіх!... Ці я вінавата, што іх няма?... А калі хочаце ведаць, дык прыйшла запісацца ў ваш гурток...

— О, спазьніліся! Гурток наш не зацьверджаны і разагнаны вашымі „стшэльцамі“ ды іншымі прыяцелямі...

— Зусім ня прыяцелямі! А што знаюся з імі, то яшчэ ня доказ, што падзяляю іх думкі! Напэўна й вы знаецеся ня толькі з прыяцелямі...

— Знаюся, але не супрацоўнічаю так, як вы!—Але пакінем гэтыя спрэчкі! А вось цікава, чаму панна Алеся раптам пачула сымпатыю да нас, што аж гатова запісацца ў беларускі гурток? Здаецца раней крыху йначай думала?...

— Што раней я думала, — ня ведаеце, а калі-б і кепска думала, то кожны можа мыляцца...

— Адным словам, цяпер хочаце працаваць у беларускім гуртку, на карысьць беларускага адраджэньня? Ну, дык я вельмі рад, што вынес з агню не якуюсь лялька, а салідную і чэсную грамадзянку. Працы маем аж зашмат. Але ведайце, што і перашкодаў ня мала!

— Перашкоды бачыла на ўласныя вочы! Пра гэта можаце не казаць. Толькі як-жа працаваць, калі ваш гурток разьвязаны?

— Заложым другі! Або папрабуйце залажыць у Сялішчох.

— У Сялішчох? Але я ня ведаю, ці патраплю, ды ў нас-жа й так ужо ёсьць некалькі арганізацыяў.

— Ага, то вам шкада рабіць канкурэнцыю „Стшэльцу“ ды „Кулку млодзежы,“ — ну, калі так, дык няма чаго гаварыць!..

— Але-ж не! Толькі трудна будзе распачаць... Блізка што ўсе дзяўчаты й хлопцы належаць да польскіх арганізацыяў...

— Блізка ўсе, але ня ўсе!

— А зрэшта папрабую! Але вы мусіце мне дапамагчы.

Радасны ўсьмех Васіля быў ёй адказам.

*
* *

— Грамадзяне! Суседкі і суседзі! — прамаўляў Васіль на скліканым у справе залажэньня коопэратывы сходзе.

— Ці-ж не даволі вы цярпелі голаду, холаду, вызыску і гора!? Ці вам павек хочацца быць гноем для чужое нівы? Ці вам мілейшы жыд або іншы чужынец ад родных дзяцей і суседзяў?

— Годзе зьдзеку і ашуканства! Вазьмеце сваё жыцьцё ў свае ўласныя рукі! Прыгледзьцеся іншым народам. Чэхі, Галяндцы, Швэды, Немцы — маюць сілу і дабрабыт, бо

сарганізаваліся ў коопэратывы. Самі сваімі справамі кіруюць, самі карыстаюць з заработку, які мае ў нас кожны прыватны гандляр.

Няхай кожны з вас зложыць па 10—15 зл., за супольныя грошы заложым уласны коопэратыў, а за гадоў 4–5, выдаткі вам зьвернуцца падвойна-патройна!

Скончыў прамову, запрашаючы прысутных да дыскусіі.

— Вось, кажаш, заложым коопэратыў — адазваўся дзядзька Пятрук. — Але-ж мы ўжо закладалі гадоў 8 таму назад! І грошы далі, і ўправу выбралі, — усё як сьледуе абгаварылі, а цяпер пайдзі пашукай! Ні слыху, ні дыху! Прапала ўсё!

— Нічога, брат, з нашымі людзьмі ня зробіш... — аказаўся Кастусь Турын. — Задурны мы, брат, народ! Ня варта прабаваць, усё роўна з гэтага нічога ня выйдзе..

— Не гавары так, Кастусь, — высунуўся дзядзька Ігнат. Ня выходзіла дагэтуль, бо рукі няўмелыя былі. Але калі за справу возьмемся ўмела, дык мусіць удацца!..

— Удасца?! Як вунь у Гаравой!... Грошы прапілі, тавары пакралі, ды на гэтым і скончылася коопэратыў!..

— Ха, ха, ха!... Ты, Васіль хоць не прапі!... пачуўся сьмех у грамадзе.

— Суседзі! — перарваў Васіль. — Калі хто йшоў сюды на жарты і сьмехі, дык моцна памыліўся! Хто хоча жартаваць, няхай ідзе на вуліцу, тут на гэта ня месца!

— Некаму відаць не падабаецца, што селянін хоча вырвацца з цемнаты, ды стаць на моцных гаспадарчых падставах... Такіх нам на сходзе не патрэбна!..

— Калі не патрэба, дык рабі сам свой коопэратыў, а мы пойдзем да хаты! — пачулася з грамады.

— Хадзеце людзі!... Ня варта траціць часу!...

— Вось маўчэце там! Расхадзіліся вельмі!.. — спыніў незадаволеных дзед Пранук. — Дай разумнейшым слова сказаць!

— Так, так! Не перашкаджайце там, грамадзяне! — пачуліся галасы.

— Я прапаную, — аказаўся вучыцель Грэчка, званы ўсім свой чалавек, — каб выбраць камітэт, які заняўся-б зборкай паёў і справай памешканьня, а пасьля выбраць загадчыка коопэратыву.

— Дазвольце, людзі, — прамовіў узноў Васіль — ці ня лепш будзе вясьці сход так, як у праграме прадбачана? Установім вышыню паёў, выбярэм скарбніка, адказнага кіраўніка коопэратыву і наглядную Раду, а тады абгаворым справу памешканьня, тэрмін узносу паёў і наступнага сходу.

Словам, Васілю ніхто не спраціўляўся і яшчэ з гадзіну цягнуліся нарады сходу, аж урэшце выбралі ўправу, нагляд-

ную Раду, вызначылі тэрмін наступнага сходу, разважылі яшчэ некалькі справаў. Васіль зачыніў сход і дзядзькі, балакаючы ды пакурваючы люлькі, грамадкамі пачалі расходзіцца дамоў.

* * *

Аднойчы вярталіся Васіль з Алесяю з недалёкага мястэчка да дому. Гаварылі пра розныя справы, жартавалі, сьмяяліся.

Абое чуліся маладымі і дужымі, поўнымі здароўя і энэргіі.

Васіль цяпер непадобны быў да таго, што вяртаўся з далёкага места да хаты. Загарэлы твар, пэўныя рукі і паходка, гучны сьмех і гумар замянілі сьлед непраспаных над кніжкай ночаў. Алеся добра і пэўна чулася пры гэтым шчырым і чэсным прадстаўніку беларускай інтэлігенцыі. Тае праўдзівае інтэлігенцыі, якая ня выракалася свае вёскі, ня шукала лёгкага хлеба на чужыне, але свае маладыя сілы ахвяравала на карысьць народнага руху.

— Ну, што-ж, Алеся, — казаў сьмяючыся Васіль, — як бачыш, грамадзкая праца ня лёгкая, але хочучы — працаваць можна!

Алеся задумана глядзела на шырокае мора жыта, на цёмна-сіні далёкі лес і ясна-сіняе неба.

— Так, працаваць можна, але ці ведаеш, што мне пазбаўляюць пасады, калі не пакіну арганізацыйна грамадзкае дзейнасьці на беларускай ніве?

А тады ўсе мае надзеі на далейшую адукацыю і кар‘еру прапалі беспаваротна!...

Вецер лёгка хваляваў яе валасы, тузаў спаднічку і хвартушок.

Дзявочыя грудзі калыхаліся роўным, здаровым аддыханьнем.

Васіль з прыемнасьцю глядзеў на гэтую вясковую красуню-інтэлігентку і думаў: „Вось з такою дзяўчынай можна рука аб руку прабіваць сабе шлях да лепшай будучыні... Каб толькі адарваць яе ад чужацкіх уплываў!...“

— Слухай, Алеся — адазваўся па хвіліне, — ці ты лепей згадзілася-б жыць у недастатку, але чэсна і спакойна, ці мець усяго даволі, але адначасна вечныя дакоры сумленьня? Бо я дык бясспрэчна выбраў-бы першае. Шчасьце не ў багацьці. Паглядзі, колькі ёсьць багатых людзей на сьвеце! А ці яны шчасьлівыя?... Напэўна большасьць іх горш чуецца за мяне.

Наша вёска бедная, але мае добрае палажэньне, кожны сюдою праходзіць і праяжджае. Калі-б хто чэсна і добра павёў коопэратыў, сяляне адкараскаліся-б ад вызыску і ашуканства пасярэднікаў.

Пакінь, Алеся, працу на карысьць чужынцаў! Вазьміся за коопэратыў! Таксама будзеш мець кусок хлеба. Я буду табе апорай і падмогай, будзем працаваць разам, будзем будзіць наш нешчасьлівы народ да лепшай долі, і прыйдзе дзень, калі „загляне сонца і ў наша ваконца“!

Ускінула на яго свае прыгожыя сінія вочы і ціха прагаварыла: — Ці-ж мне самой прыемна працаваць між чужынцаў? Але што скажуць бацькі?..

— Бацьком мусіш вытлумачыць, што хочучы астацца чэснай, ты ня можаш зрабіць іначай; і што, калі коопэратыў добра разаў'ецца, дык зможа даць табе прызваітае і пэўнае ўтрыманьне, а ня нейкую няпэўную ласку з чужое кішані... Ды з коопэратыву й бацькі будуць мець карысьць. Няхай ведаюць, што гэта ня толькі абавязак, але і ўласны інтэрас!

А калісь... хто ведае, ці нашы дарогі ня сыдуцца разам?., Мо' лягчэй будзе зносіць перашкоды і праціўнасьці лёсу...

Гэтым часам падыйшлі да павароткі ў Зарэчча. — Ну, бывай, Алеся! Пастарайся зрабіць так, як я казаў. Добра?..

— Пастараюся! — адказала яму сьмяючыся і выцягваючы на разьвітаньне руку. *(д. б.)*

# ПАЛЕМІЧНЫЯ ЗАЕЦМКІ

## „Не-стары“ — Максім Танк — Міхась Машара

Дзеля таго, што ня ўсе людзі аднолькавыя маюць пагляды, што не аднолькава думаюць часта вядуць між сабою спрэчкі, дыскусіі — палемікі. Палеміка-ж ведзеная культурна зьяўляецца вельмі добрым спосабам для вырашаньня непаразуменьняў, крысталізацыі паглядаў і агулам для выясьняньня розных няяснасьцяў і нясумернасьцяў. Я, пачынаючы палемічны аддзел у „Шляху Моладзі“, хачу сказаць пару слоў аб маладым бел. паэце Максіме Танку і ягонай крытыцы.

Максім Танк, як усім ведама, зьявіўся на беларускай літаратурнай ніве нядаўна. Паэт гэты мае бясспрэчна не малы талент і бел. грамадзянства спаткала яго вельмі прыхільна, а пэўная група людзей нават энэргічна высоўвае яго на першае месца. З агульным прызнаньнем Танка паэтам таленавітым не згадзіўся, і то яшчэ ў форме непрызваітай, крытык „Роднага Краю“, нехта „Не-стары“, каторы ў № 4 успомненага часапісу востра заатакаваў Танка. Выступленьне „Не-старога“ выклікала ў грамадзянстве агульнае незадаваленьне і нясмак. Зарэагаваў на гэта і сам Танк у № 7 (8) „Нашай Волі“, вершам „Крытык“, у якім, пачынаючы ад сабак, дэфэнзывы, касьцей і розных іншых „красных славечак“, злаяў і збэсьціў „Не-старога“. Выступленьнем гэтым, ясна, Танк пабіў сябе ў агульна-грамадзкай апініі горш, чымся біў яго „Не-стары“, і бязумоўна аслабіў варожасьць настрояў супроць „Роднага Краю“, а што найгорш — выявіў нявытрыманасьць і вялікую чуткасьць на крытыку.

Пасьля гэтага здавалася, што Танк, калі будзе штось аб кім гаварыць або пісаць, дык будзе напэўна асьцеражнейшым. Азноў дзеж там... Адказаўшы „Не-старому“, Танк ускладае на сябе рызу крытыка і пачынае „крытыкаваць“... І то каго?.. Свайго старэйшага таварыша, Міхася Машару... Ды яшчэ як?.. — Словам, той-жа Танк, які так востра выступаў супроць „Нестарога“, у сваей крытыцы адносна Машары куды перавысіў „Нестарога“... — Што-ж тады павінен быў-бы рабіць

Машара йдучы сьлядамі Танка? Ці-ж-бы ўвялічыць ягоную лаянку адносна „Не-старога“ і прысьвяціць яе яму — Танку?.. Але не аб гэта нам ходзіць.

Наўперад мусім сьцьвердзіць, што такая крытыка, як „Не-старога“ і Танка, перасычаная нейкай злосьцяй, зайздрасьцяй ды як-бы вывышаньнем сябе, — гэта агулам ніякая крытыка, а проста злосная некультурная нагонка і ёй у беларускай прэсе не павінна быць месца. З гэтым трэба раз на заўсёды скончыць.

Бараніць Машары ад Танкавай крытыкі мы ня будзем, бо яна плыткая, вузкая, злосная, беспадстаўная і някультурная. Агулам Танк чамусьці надта вуска ўсё бярэ і хоча ў кожным творы бачыць толькі праграмы, клясавасьць, партыйнасьць і панад гэта ня можа падняцца. А гэта, на наш пагляд, кепска. Бо ня можна да ўсяго падходзіць памасонску. А іменна, што тое, што ёсьць маей партыі, майго кірунку, хоць яно і гнілое, то аднак дабро, а рэшта — ўсё дрэнь... Трэба помніць, што кепскі хрысьціянін можа быць горшы за камуніста і наадварот — камуністы чалавек чэсны, хоць і няверучы, можа быць лепшым ад якога-небудзь хрысьціяніна. Дык ня дзіва, напрыклад, што Машара шукае наўперад *чалавека беларуса, якому справа Беларусі ёсьць блізкай*, а не тых ці іншых партыйцаў.

Трэба помніць так-жа аб тым, што паэтыцкі талент гэта ня ўсё, бо вось быў у нас паэт — Бартуль — з вялікім талентам паэтыцкім і радыкалізмам, а яго ўжо няма, хоць целам ён жыве...

## Яшчэ аб дэклярацыі правоў маладога пакаленьня Польшчы

Як чытачы „Шляху Моладзі“ хіба сабе прыпамінаюць, у № 4 „Шл. Мол.“ была абгаворвана дэклярацыя правоў маладога пакаленьня Польшчы і справа падпісваньня яе. Вось-жа тады адносна гэнай дэклярацыі занялі мы нэгатыўнае становішча і ня думаем, ясна, зьмяняць яго, пакуль сама дэклярацыя ня зьменіцца. Тым больш, што пасьля таго рэдакцыя „Шляху Моладзі“ атрымала шмат пісьмаў ад беларускай моладзі з вёскі, у каторых бадай усюды было падчыркнута, што дэклярацыя павінна быць датасавана і да вымогаў беларускага жыцьця. Гэтым-жа самым беларуская вясковая моладзь пацьвердзіла правільнасьць нашага становішча.

Трэба сказаць, што было пісьмо з вёскі „Старога“, які чамусьці ўмяшаўся ў справы моладзі, і які моцна бараніў дэклярацыю, даказваючы патрэбу яе падпісваць. У канцы аднак ён-жа цьвердзіць, што „Будзе і мусіць стварыцца (адзіны фронт маладога пакаленьня—рэд.) у галоўнай меры пад знакам нацыянальнага руху“. „Гэта — пісаў далей ён — цяпер галоўнае зьвяно нашай працы“.

Дык вось-жа дзеля таго, каб ня згубіць нацыянальнага знаку — мы, беларуская моладзь, ня можам і думаць падпісваць дэклярацыю правоў маладога пакаленьня Польшчы ў дасюлешняй яе рэдакцыі.

Пішучы аб дэклярацыі правоў маладога пакаленьня Польшчы трэба ўспомніць і аб нядаўна абвешчанай прграмовай дэклярацыі польскай студэнцкай лявіцы віленскага унівэрсытэту — Z.P.M.S. і Z.P.M.D.L. U.S.B. Вось-жа дэклярацыя студэнцкай лявіцы ёсьць далёка шырэйшай і глыбейшай ува ўсім ад успомненай вышэй дэклярацыі правоў маладога пакаленьня. Аднак, калі-б і гэту дэклярацыю хацеў хто-небудзь зрабіць падставай для супольнага паразуменьня моладзі, то гэта ня ўдасца, бо і ў ёй між добрымі пунктамі, між мінімальнымі жаданьнямі, на каторыя беларуская моладзь магла-б нават згадзіцца, як на пераходныя да далейшых і шырэйшых, ёсьць так-жа пункты, на каторыя беларуская моладзь згадзіцца ня можа.

Агулам думка стварэньне супольнага фронту моладзі добрая, але і рэалізаваць яе трэба добра, незалежна і так каб моладзь уваходзячы ў гэты фронт для спраў, праўда, важных і вялікіх не патрэбавала аднак выракацца сваіх найвышэйшых імкненьняў.

*j. п.*

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Sudy.** 17 VI sioł. Vil. Haradzki Sud zasudziŭ hram. J. Paźniaka, redaktara „Bieł. Krynicy", na 2 tydni aryštu i 40 zł. štrafu. 18.VI toj-ža sud zasudziŭ hram. Ul. Kazłoŭskaha, redaktara „Novaha Šlachu", na 1 miesiac aryštu i 50 zł. štrafu, a 26.VI heny-ž sud zasudziŭ jznoŭ redaktara „Bieł. Krynicy" hram. J. Paźniaka na 2 miesiacy aryštu, z ustrymańniem kary na 2 hady, i 50 zł. štrafu. Jak hram. J. Paźniak, tak i hram. Ul. Kazłoŭski abvinavačvany byli za svaje presavyja vystupleńni, u katorych prakuror dahledziŭ prastupak.

**10-cilećcie hurtka BIHiK u Žodziškach.** Sioleta prypadajuć 10-tyja ŭhodki isnavańnia hurtka Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Žodziškach, Vialejskaha pav , śviatkavańnie jakich adbudziecca 12.VII. Jubilata vitajem i žadajem udačy ŭ dalejšaj pracy!..

**Vandroŭka biełaruskich studentaŭ.** Bieł. Stud. Sajuz sioleta letam ładzić vandroŭku, z metaj paznańnia rodnaha kraju, u Navahradčynie. Zborka 12.VII u v. Valaŭka kala voziera Śviteź.

**Z dziejnaści BNA.** Niadaŭna, na prapanovu niekatorych siabroŭ, Rada BNA praviała dyskusiju i źmianiła niekatoryja punkty prahramy BNA. 16.VI sioł. adbyłosia pasiedžańnie C.K. BNA, na jak m była pryniata rezalucyja ab sučasnym pałažeńni Biełarusaŭ u Polskaj Dziaržavie. Rezalucyja heta była nadrukavana ŭ № 31 „Bieł. Kr nicy".

**Biełaruskaja pilihrymka ŭ Kalvaryju.** Za prykładam minułaha hodu, z inicyjatyvy vilenskaha Biełaruskaha Kaścielnaha Kamitetu adbyłasia 7.VI sioleta pilihrymka biełarusaŭ katalikoŭ u padvilenskuju Kalvaryju Pilihrymka vyjšła paśla nabaženstva z kaścioła śv. Mikałaja i pa darozie śpiavała bieł. relihijnyja pieśni. Vadziŭ pilihrymku i havaryŭ kazańni Ks. A. Stankievič. Ludziej było kala 500 asob. Prytym brali ŭ joj udzieł ludzi, jakija specyjalna dzieła hetaha prybyli až z Śviancianskaha, Vialejskaha, Baranavickaha, Ščučynskaha, Ašmianskaha, Vaŭkavyskaha, Lidzkaha i Vilenska-Trockaha pavietaŭ. Častka hetych ludziej była tak-ža na adkryćci pamiatnika K. Svajaku i akademii ŭ česć jahonuju 6.VI, ab čym padajom na inšym miescy hetaha numaru „Śl. Moładzi".

**Biełaruski Adryŭny Kalendar na 1937 h.** Daviedvajemsia, što Bieł. Drukarnia im Fr. Skaryny ŭ Vilni ŭžo raspačała druk Biełaruskaha Adryŭnoha Kalendara na 1937 h.

**Z BSSR.** — Niadaŭna savieckija ŭłady pierajmienavali Biełaruskuju Akademiju Navuk na Akademiju Navuk BSSR. Źmiena heta nazovu Akademii vyrazna śviedčyć, jak sapraŭdy kamunistyja ŭ SSRR bajacca ŭsiaho, što tolki jość biełaruskaje... navat nazovu...

## Z KRAJU

### Pałažeńnie rabotnickaj i sialanskaj moładzi ŭ našym krai i vychad z jaho.

Biełaruskaja rabotnickaja i sialanskaja moładź pieravažna małaadukavanaja abo zusim ciomnaja. Niekatoryja majuć usiaho tolki dva abo try končanyja addzieły polskaj pačatkavaj škoły, redka kaho možna spatkać, kab končyŭ čatyry ci piać addziełaŭ henaj škoły. Usie dobra znajem, jakuju aśvietu dajuć nam henyja niekalki addziełaŭ polskaj škoły.

I tak žyvuć maładyja, ciomnyja i sumnyja, jak vasieńni dzień, chudyja, biazsilnyja i časta chvoryja ludzi, nia bačačy prad saboj nijakaje budučyni. Z pasiarod rabotnickaje moładzi mnoha jość biezrabotnych, a katoryja pracujuć, — nia peŭnyja svajho zaŭtra. Sialanskaja moładź u nas pieravažna małaziamielnaja, abo biezziamielnaja. Budučy ŭ takim pałažeńni i nia majučy dostupu da navuki i da karystańnia z usich zdabyčaŭ kultury i cyvilizacyi, moładź časta staić na biezdarožžy, abo błudzić pa čužych darohach, nia bačačy sapraŭdnaha vychadu.

Voś-ža biełaruskaja moładź pavinna naŭpierad abjadnacca ŭ svaje biełaruskija arhanizacyi, kab hetkim šlacham barocca za svaje pravy, za palepšańnie svajho bytu. Pavinna jana supracoŭničać z paniavolenaj i eksploatavanaj moładździu inšych nacyjanalnaściaŭ. Razam sa starejšymi moładź musić zmahacca za: 1) školu ŭ rodnaj movie, 2) kursy dla darosłaj moładzi ŭ rodnaj movie, 3) pracu, 4) chleb, 5) mir, 6) svabodu.

Takim-ža šlacham idučy zmožam palepšyć svajo žyćcio.

Biełavieža. *A. Stapčuk.*

### Jak hulaje ŭ nas moładź.

**v. Kurapole,** Dziśnienskaha pav. Najstrašniejšym voraham našaje moładzi źjaŭlajecca samahonka: jana demoralizuje maładych, niščyć ich rozum i enerhiju i davodzić da taho, što ciapier na vioscy nivodnaja badaj viečaryna nia moža adbycca biaz bojki. Moładź u nas nia ŭmieje, a abduranaja samahonkaj i nia moža paludzku hulać na viečarynie. Ciapierašniaja viečaryna na vioscy — heta strašny abraz. Na jaje sabirajucca chłapcy, jak na vajnu, biaručy z saboj kindžały, śvincoŭki, nažy, adrazanki, spružyny i h. p.

Chata, u jakoj adbyvajecca hulańnie, byvaje zvyčajna pierapoŭniena nia tolki moładździu, ale i starejšymi mužčynami i žančynami z dziaćmi, katoryja prychodziać pahladzieć, jak ich synki i dačuški hulajuć. U takoj chacie strašna ciesna ad ludziej i dušna ad dymu, pary i pyłu. Chłopcy i mužčyny kurać biez pierastanku, a dym ich i pył ad tancaŭ udychajuć

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

maleńkija hrudzi dziaciej, što siadziać u matak na kaleniach. Skoki moładzi adbyvajucca biestałkova, niepavažna, a z boku hledziačy, vyhladajuć jany na niešta durnoje.

Niama tut vietlivaści chłapcoŭ adnosna dziaŭčat. Chłapcy nia prosiać dziaŭčat tancavać, ale prosta vyciahvajuć ich za ruki. Skačuć chłopcy ŭ šapkach, z papiarosami ŭ zubach, z vykrykami, z śvistami, z prytupyvańniem, biaz nijakaj uvahi, časta topčucca pa nahach dziaŭčat i kruciacca pa całaj chacie, jak dzikija. Pry tym tancujuć užo pieravažna tancy čužyja, taksama niejkija dzikija. Kali ŭžo dobra razhulajucca i kali chłapcoŭ mocna „raźbiare“ samahonka, dyk tady ni z siaho, ni z taho paŭstaje miž imi kałatnia, paśla mordabojstva i sapraŭdnaja bojka. Na hetym i kančajecca viečaryna. Paśla jaje adny jduć na toj śviet, druhija ŭ špital, a trecija ŭ vastroh. Voś da čaho davodzić harełka i dzikija hulni.

Voś-ža treba apamiatacca. Treba siłu i enerhiju vykarystać dla dobraje spravy, abo zaniacca sportam. Treba čytać dobryja biełaruskija knižki i časapisy, a jany daduć razryŭku i karyść. Kali-ž hulać, dyk hulać kulturna, spakojna, naładziŭšy pradstaŭleńnie, abo lekcyju, śpiavajučy svaje pieśni i nie padymać ruki biaz-daj pryčyny na svajho brata. Bo ŭ praciŭnym vypadku sami siabie daviadziom da zhuby. *J. Kurdzionak.*

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

**„Сучасныя Маладажоны“** — *Н. П. Краснова.* Зьбеларушчыў М. Ш. Водэвіль у 1 дзеі. Бач. 14. Фармат 16⁰. Вільня 1936 г. Цана 25 гр.

Ёсьць гэта невялічкі характэрны абразок з сямейнага жыцьця маладажонаў. Прадстаўляе ён у гумарыстычнай форме нязгоду, сваркі, а нават бойку маладой пары жаніхоў. У выніку непаразуменьня абое хочуць разыйсьціся і адно ад другога ўцякаюць. Муж зьбіраецца ўцякаць нават дзесь заграніцу і скаржыцца на сваю жонку ейным бацьком. Жонка-ж уцякае да бацькі мужа і яму скаржыцца. Бацькі годзяць маладажонаў, пры тым адносна жонкі бацька ейны ўжывае дзягі. Гэта дае пажаданы вынік: між маладажонамі наступае згода. На гэтым і канчыцца водэвіль. П'еска напісана жыва і ёсьць лёгкай да пастаноўкі на сцэне.

**„Беларускі Фронт“**— пад гэткім назовам сёлета ў м-цы чэрвені пачаў выходзіць новы беларускі палітычны месячны часапіс. Выдаўцом і рэдактарам „Б.Ф.“ ёсьць студ. В. Папуцэвіч.

**„За беларускую школу“**—гэткі мела назоў аднаднёўка, якую выдаў 16.VI сёлета Школьны Сакратар'ят у Вільні. Нажаль, адміністрацыйныя ўлады аднаднёўку гэту сканфіскавалі.

**„Золак“** — орган маладой бел. сацыялістычнай думкі Пасьля перарыву, нядаўна выйшаў № 1(6). —Цікава зазначыць, што часапіс гэты, цяпер, калі праводзіцца беларуская школьная акцыя, нічога аб гэтым ня піша, а яшчэ пытаецца: чаму гэта БІГіК і ТБШ супольна вядуць гэну акцыю? — Ці-ж сапраўды рэдактаром „Золаку“ справа роднай школы ёсьць так малым фактам, каб дзеля барацьбы за яе не супрацоўнічаць?

Pierasyłka apłačana ryčałtam

## USIAČYNA

— U Polščy dalej adbyvajucca časta strajki i sutyčki rabotnikaŭ z palicyjaj. I tak byli ŭ m-cy červieni kryvavyja sutyčki ŭ Krasnymstavie, Toruni, Gdyni, dzie paśla ŭ kožnym z hetych miestaŭ ad ranaŭ pamiorła pa 1 rabotniku. Niadaŭna-ž dajšło da kryvavych sutyčak rabotnikaŭ i sialan z palicyjaj u Lvoŭskim vajavodztvie, u časie jakich ad kulaŭ palicyi było zabita 11 asob i šmat ranienych.

— U ženevie adbyłasia narada Lihi Narodaŭ, na katoraj pastanoŭlena było skasavać ekanamičnyja sankcyi adnosna Italii. Na hetaj naradzie byŭ i vystupaŭ u abaronie Abisynii abisynski car Haile Selasie, jakoha paciešyli tolki tym, što aneksii—dałučeńnia—Abisynii da Italii Liha Narodaŭ nie pryznaje.

— Saviety abvieścili prajekt novaj kanstytucyi SSRR. šyrej ab hetym napišam paśla.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Moładzi v. Kazły kala Horadni: Ab pabićci kamandantam viaskovych chłapcoŭ i ab jahonaj hutarcy prosim prysłać nastupnyja danyja: 1) kali kamandant biŭ chłapcoŭ i dzie (data i miesca), 2) proźvišča kamandanta, abo jahony numar, 3) proźviščy i dakładnyja adrysy chłapcoŭ, jakija byli pabity, 4) što kamandant havaryŭ bjučy chłapcoŭ i 5) kali jość śviedki, dyk padajcie ich proźviščy i adrysy. Pa atrymańni hetych danych my ŭsio apublikujem i spravu pieradamo ŭ Sud, a tak-ža ŭ Lihu Abarony Pravoŭ Čałavieka i Hramadzianina. Inačaj my pamahčy nia možam. Usim paciarpieŭšym pierasyłajem ščyry spahad.

Moładzi v. Komatava: Jak bačycie, u hetym numary spravu deklaracyi parušajem i biaromsia za jaje, zdajecca, zhodna i z vašymi pahladami.

Б. Камароўскаму. Прысланыя вершы пераглядзелі, адзін з лепшых, паправіўшы, надрукуем. „Нарачанскі бунт“ вельмі слабы формай, многа пустых і непатрэбныя дыялёгаў. Пры гэтым. шмат вершаў ёсць проста пераробкай з Купалы, Машары і інш. Пісаць Вы маглі-б, але пішэце самастойна і зьвярнеце большую ўвагу на апрацоўку формы.

Д—чу: За прысланых матар'ялы шчыра дзякуем, будзем карыстаць, як кончым друк новэлі „На родным палетку“.

А. Думнаму: Караснандэнцыі ня можам надрукаваць з прычынаў цэнзуральных. Верш слабаваценькі, але паправіўшы будзем старацца надрукаваць, можа нават у наступным нумары „Шляху Моладзі“. Наша становішча адносна дэкларацыі маладога пакаленьня нэгатыўна-крытычнае, бо дэкларацыя гэна зусім вузкая і ў ёй ня выражаны належна нават мінімальныя жаданьні бел. моладзі. Просім пісаць часьцей.

Усіх, хто зьвяртаўся ў справе дэкларацыі правоў маладога пакаленьня, просім прачытаць зацемку ў гэтым нумары на бач. 14.

(Z pryčynu niastačy mieca adkazy inšym asobam damo ŭ № 7-8 „Šl. Mol.“)